*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 50 (538) | 19 СНЕЖНЯ 2001 г.

## VII з'езд ГА БНФ "Адраджэньне" V з'езд Партыі БНФ




15 - 16 снежня ў Менску прайшоў VII з'езд Грамадскага аб'яднання БНФ "Адраджэньне" і разам з ім V з'езд Партыі БНФ. З'езды праходзілі на фоне сакрушальнай паразы дэмакратычных сілаў Беларусі на апошніх прэзідэнцкіх выбарах, таму танальнасць з'езду была далёкая ад мажоркоўнасці. Гарадзенская воблясць заняла пазіцыю ацэнкі вынікаў дзейнасці БНФ за справаздачны перыяд, як незадавальняльнай. На гэтым фоне спробы некаторых менчукоў выступіць з хвалебнымі одамі ў адрас кіраўніцтва глядзеліся, мякка кажучы, не зусім да месца. Разам з тым кожны дэлегат з'езду ўсведамляў асабістую адказнасць за вынікі дзейнасці БНФ. І тыя ж гарадзенцы абсалютнай большасцю падтрымалі перавыбранне Вінцука Вячоркі на новы тэрмін, не спакусіўшыся на быццам бы альтэрнатыўную праграму Вячаслава Сіўчыка. Вінцук Вячорка атрымаў 246 галасоў "за" і 100 "супраць", што зусім прыстойна ў такой сітуацыі.

З'езд абраў чатырох намеснікаў: Віктара Івашкевіча, Паўла Севярынца, Галіну Сямдзянаву, Юрася Хадыку. Усе абраныя намеснікі былі прапанаваныя старшынём Фронту. Такім чынам палітычны курс ГА БНФ "Адраджэньне" і Партыі БНФ па вялікаму рахунку застаюцца без зменаў. Разам з гэтым трэба разумець, што гэта будзе курс бітаў і цёргаў у палітычных баталіях сілы, якая здольная рабіць зусім рэальныя высновы і з поспехаў, і з паразаў.

З'езд абраў Сойм ГА БНФ "Адраджэньне" ў складзе 55 чалавек.

***Сойм БНФ "Адраджэньне"***

1) Бакіевіч Рыгор, Берасце,
2) Моргаль Алесь, Пінск,
3) Мязяк Віктар, Баранавічы,
4) Чарніцкі Станіслаў, Кобрын,
5) Корбан Юрась, Віцебск,
6) Галавацкіх Васіль, Навапolацак,
7) Скрабатун Уладзімір, Глыбокае,
8) Шутаў Алесь, Ворша,
9) Паплаўны Анатоль, Гомель,
10) Раманішка Віктар, Светлагорск,
11) Чаранкоў Юрась, Мазыр,
12) Аксаміт Мікола, Ваўкавыск,
13) Астроўскі Алесь, Гарадня,
14) Бедка Іван, Слонім,
15) Дзергачоў Алесь, Смаргонь,
16) Мальчык Сяргей Гарадня,
17) Саранчукоў Вадзім Гарадня,
18) Суднік Станіслаў, Ліда,
19) Баранаў Валянцін, Менск
20) Капуцкі Алесь, Маладэчна,
21) Лапіцкі Аляксей, Жодзіна,
22) Шпунгаў Кастусь, Мар'іна Горка,
23) Букатаў Зміцер, Магілёў,
24) Костусеў Рыгор, Шклоў,
25) Фёдараў Анатоль, Магілёў,
26) Кавалец Аляксей, Менск,
27) Кішкурна Ўладзімір, Менск,
28) Міхноў Сяргей, Менск,
29) Пальчэўскі Юрась, Менск,
30) Сямдзянава Галіна, Менск,
31) Церашкоў Андрэй, Менск,
32) Арлоў Уладзімір, Менск,
33) Барадулін Рыгор, Менск,
34) Бяляцкі Алесь, Менск,
35) Валынец Алена, Менск,
36) Вольскі Артур, Менск,
37) Вячорка Вінцук, Менск,
38) Голубеў Валянцін, Менск,
39) Грыцкевіч Анатоль, Менск,
40) Івашкевіч Віктар, Менск,
41) Лабковіч Уладзімір, Менск,
42) Лісічонак Сяргей, Менск,
43) Мікульская Дзіяна, Менск,
44) Мухіна Леанарда, Менск,
45) Саверчанка Іван Менск,
46) Севярынец Павел, Менск,
47) Сіўчык Вячаслаў, Менск
48) Станкевіч Анатоль, Менск,
49) Трусаў Алег, Менск,
50) Трыгубовіч Валянціна, Менск,
51) Хадыка Юры, Менск,
52) Шэін Аляксей, Менск,
53) Янукевіч Аляксей, Менск,
54) Бахун Алесь, Берасце,
55) Міхалевіч Алесь, Гарадня

Па прапанове Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны абодва з'езды падтрымалі "Дэкларацыю аб беларускай мове", прынятую VII з'ездам ТБМ. Такім чынам Дэкларацыя падтрымана ўжо трыма нацыянальнымі грамадска-палітычнымі структурамі. Нагадаем, што некалькі раней Дэкларацыю падтрымала БСДГ (старшыня С. Шушкевіч).

З'езд атрымлівае і будзе атрымліваць розныя ацэнкі ад "сяброў" і ворагаў. Гэта іх права. Бясспрэчная адна ацэнка. З'езд падвёў рысу пад чарговымі двума гадамі змагання за Беларусь і даў зразумець, што Фронт у гэтай бітве сваіх пазіцый не пакідае. Сілаў малавата, але волі і рашучасці дастаткова.

*Станіслаў Суднік.*

## Рэспубліканская рада ТБМ

***Чарговае паседжанне Рэспубліканскай Рады ТБМ адбылося 16 снежня 2001 года ў памяшканні Дольнай залы Чырвонага касцёла.***

Рада разгледзела ўсе пытанні ў адпаведнасці з абвешчаным парадкам дня.

Па кожным з пытанняў прынятыя адпаведныя пастановы, якія будуць друкавацца ў гэтым і наступных нумарах. Адным з важных рашэнняў з'яўляецца прызначэнне наступнай рады на люты 2002 года выключна для разгляду структуры Стратэгіі абароны і развіцця беларускай мовы.

Трэба адзначыць шырокае прадстаўніцтва на радзе рэгіёнаў краіны.

**Пастанова Рады ТБМ ад 16 снежня 2001 г.**
**Аб памерах складак сяброў ТБМ і тэрмінах іх збору на пачатак 2002 года.**

У сувязі з дзейнасцю Таварыства, якая патрабуе фінансавых выдаткаў, а таксама з прычыны пастаяннай інфляцыі Рэспубліканская Рада пастанаўляе:

1. Вызначыць на пачатак 2002 года наступныя памеры абавязковых складак для сяброў ТБМ:

I. Для грамадзян Беларусі:

а) для тых, хто працуе – 2.000 руб. за год;
б) для беспрацоўных, студэнтаў, пенсіянераў – 1.000 руб. за год;
в) навучэнцаў – 400 руб. за год.

2. Для грамадзян Расіі – 50 расійскіх руб.
3. Для грамадзян іншых краін – 3$

II. Рэкамендаваць усім структурам ТБМ Беларусі арганізаваць штоквартальны збор складак у памеры 500, 250, 100 беларускіх рублёў адпаведна кантынгенту сяброў.

III. Рэкамендаваць суполкам штоквартальна рабіць адлічэнні ад сабраных складак у памеры не менш як 25% на цэнтральны рахунак ТБМ № 3015212330014 у Філіяле МГД ААТ Белінвестбанка г. Менска, код 764 праз аддзяленні Ашчадбанкаў (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).



З надыходзячымі Калядамі, шаноўнае спадарства!

# Беларуская мова ў кантэксце глабалізацыі

**ЮНЕСКА,**
**Саюз беларускіх пісьменнікаў,**
**Беларускі дзяржаўны універсітэт,**
**Белдзяржпедуніверсітэт імя М.Танка,**
**Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі,**
**Грамадскія аб'яднанні**
**"Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны" і**
**"Фонд імя Льва Сапегі"**
**пры падтрымцы**
**Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры,**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь і**
**Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА**

праводзяць Міжнародны сімпозіюм:

**"Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі".**

Сімпозіюм адбудзецца ў Менску 8-10 ліпеня 2002 года.

У сімпозіюме прымуць удзел вучоныя-мовазнаўцы, дзеячы нацыянальных культур, пісьменнікі і палітыкі Беларусі, Украіны, Расіі, краін Заходняй Еўропы, прадстаўнікі зацікаўленых уладных структур Рэспублікі Беларусь.

Мэта сімпозіюму: усебакова вывучыць пастаўленую праблему, раскрыць яе своеасаблівасць і вастрыню на фактах беларускай гісторыі, выпрацаваць рэкамендацыі па захаванні і абароне мовы і літаратуры малых народаў ва ўмовах глабалізацыі, садзейнічаць наладжванню і аднаўленню кантактаў беларускіх пісьменнікаў, мовазнаўцаў, дзеячоў культуры са сваімі калегамі ў свеце.

На сімпозіюме будуць асвятляцца пытанні:

1. Мова, культура і адметнасць нацыі.
2. Роля мовы ў развіцці літаратуры і іншых аспектаў культуры.
3. Нацыянальныя культуры ў дыялозе цывілізацый.
4. Роля дзяржавы ў развіцці нацыянальнай культуры.
5. Мова і адукацыйны працэс (тэхналогія беларускасці на Беларусі).
6. Перспектывы развіцця і карыстання беларускай мовы.
7. Разнастайнасць моў, нацыянальных культур і ўстойлівае развіццё цывілізацыі.
8. Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ва ўмовах глабалізацыі (круглы стол).

Рабочыя мовы сімпозіюму: беларуская, руская, англійская.

Рэгламент: 15 – 20 хвілін для асноўных дакладаў, 7 – 10 хвілін для паведамленняў па тэме і да 5 хвілін выступленням у спрэчках.

Матэрыялы сімпозіюму будуць выдадзены асобным зборнікам.

Заяўкі на ўдзел у сімпозіюме і тэксты сваіх дакладаў і паведамленняў просім прысылаць загадзя, у тэрмін да 30 красавіка 2002 г. на адрас:

220034, Менск, вул. Фрунзе, 5, СБП, тэл. 236-03-48

Аргкамітэт.

**АРГКАМІТЭТ**
**Міжнароднага сімпозіюму**
**"Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі"**
**Ліпень 2002 г.**

Іпатава Вольга Міхайлаўна, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў, сустаршыня, тэл. 236-03-48.

Гедройц Валеры Карлавіч, наменсік міністра культуры, сустаршыня, тэл.223-53-10

Жук Аляксандр Іванавіч, першы наменсік міністра адукацыі, сустаршыня, тэл.220-99-09.

Трусаў Алег Анатольевіч, старшыня грам.аб'яднання ТБМ, сустаршыня, тэл.284-85-11, 213-43-52.

Якавенка Васіль Цімафеевіч, сустаршыня, каардынатар праекту, 271-58-19 х.

Ананіч Лілея Станіславаўна, Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, тэл. 223-59-16

Завадскі Андрэй, ГА "Фонд імя Льва Сапегі", тэл. 234-37-91

Катляроў Ігар Васільевіч, старшыня камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічнаму прагрэсу, 289-14-58, 222-65-45, 223-02-07 х.

Лойка Алег Антонавіч, паэт, доктар філалагічных навук, прафесар, 251-60-07 х.

Лыч Леанід Міхайлавіч, доктар гістарычных навук, 223-17-84 х.

Мальдзіс Адам Восіпавіч, прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, першы наменсік старшыні Беларускага Пэн-Цэнтра, доктар філалагічных навук, 213-34-61, 269-05-30.

Падлужны Аляксандр Іосіфавіч, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа 284-18-84.

Уладыкоўская-Канаплянік Любоў Мікалаеўна, Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Ф. Скарыны, тэл. 206-57-97, 220-93-50.

Ціханаў Леанід Міканоравіч, рэктар Белдзяржпедуніверсітэта імя М. Танка, 226-40-20.

Цыркун Надзежда Аляксандраўна член камісіі Палаты прадстаўнікоў па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ. 222-65-85

Шчасны Уладзімір Рыгоравіч, старшыня Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА, тэл. 220-31-83

Яноўскі Алег Антонавіч, першы прарэктар Белдзяржуніверсітэта, тэл. 209-52-04.

***У абмеркаванні плана падрыхтоўкі сімпозіуму чынны ўдзел прынялі старшыня СБП Вольга Іпатава (сустаршыня), наменсік міністра культуры Валеры Гедройц (сустаршыня), першыя прарэктары названых вышэй універсітэтаў Алег Яноўскі і Васіль Бондар, старшыня Камісіі па адукацыі, культуры, навуцы і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Ігар Катляроў, доктар гістарычных навук Леанід Лыч, наменсік міністра інфармацыі Лілея Ананіч (сустаршыня), наменсік дырэктара Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа Аляксандр Лукашанец, старшыня ТБМ Алег Трусаў (сустаршыня) і іншыя.***

## Заява
### Віцебскай гарадской канферэнцыі ТБМ

Канферэнцыя Віцебскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны адзначае агульны нездавальняльны стан функцыянавання беларускай мовы ў грамадстве і рэзкае звужэнне за апошнія сем гадоў сферы беларускамоўнай адукацыі.

Сёння, як і дзесяць гадоў таму, мусім прызнаць, што гэта тлумачыцца не натуральным развіццём моўнага працэсу і аднасінамі людзей да мовы, а прыўнесенай заганнай практыкай ставіцца да беларускай мовы з пагардай і памылковымі арыентырамі ўладаў у моўнай палітыцы.

Але нават самым зацятым недобразычліўцам беларускасці немагчыма ігнараваць факты самавызначэння беларусаў як нацыі і прыхільнасці іх да роднай мовы, што пераканаўча праявілася пры перапісе насельніцтва 1999 г. Насуперак папярэдняй кампаніі ігнаравання і зневажання беларускай мовы перапіс паказаў, што беларусаў у краіне не 30-35%, а 81,2%, што роднай мовай беларускую лічаць 85,6%, беларусаў і што 41,3% з іх карыстаюцца беларускай мовай у хатнім побыце. Нават значная частка грамадзян Беларусі, не беларусаў па паходжанні, назвалі роднай мовай таксама беларускую.

З прычыны таго, што перапіс насельніцтва ў 1999 г. праводзіўся ў адносна дэмакратычных умовах, яго вынік можна лічыць незапланаваным рэферэндумам жыхароў Беларусі ў дачыненні да мовы.

У гэтых умовах трэба вітаць нарэшце прынятую "Праграму дадатковых мер па пашырэнні сферы выкарыстання беларускай мовы ў сістэме адукацыі" Мінадукацыі Рэспублікі Беларусь № 48 ад 27.08.2001 г., якая і ёсць вынікам ўпартай дзейнасці свядомай грамадскасці, і ў першую чаргу ТБМ, у абарону роднай мовы.

Ацаніць гэты дакумент для сістэмы адукацыі станоўча можна будзе толькі пасля таго, як усё, што ў ім пазначана, пачне здзяйсняцца на практыцы, і ён будзе дапоўнены абавязковым пунктам аб стварэнні беларускага нацыянальнага універсітэта.

Калі ўлады па-сапраўднаму клапоцяцца пра годнасць і прэстыж сваёй краіны, дык яны не могуць і надалей захоўваць ганебнае становішча, пры якім у Беларусі да гэтага часу не існуе такой установы. Імітацыя існых ВНУ пад нацыянальныя беларускія нікога не можа ўвесці ў зман.

Нягледзячы на патрабаванне грамадскасці аб змяненні адносінаў да галоўнай нацыянальнай каштоўнасці – мовы, нягледзячы на выпікі апошняга перапісу насельніцтва, якія павінны быць улічаны ўладамі з мэтай развіцця беларускай мовы і пашырэння межаў яе выкарыстання, зноў робіцца спроба пакінуць усё без зменаў на нявызначаны тэрмін. Выказванне прэзідэнта на II з'ездзе настаўнікаў усё вяртае да знакамітай формулы: "Кто как хотит – тот так і говорит". У адносінах да мовы гэта ўсё роўна, што паставіць фізічнае існаванне народа ў залежнасць ад згубных звычак і спакойна назіраць, як ён сканае.

Наспеў час зразумець, што беларуская мова павінна гучаць не толькі ў школе на ўроках беларускай мовы, а і шырока ўжывацца ва ўсіх сферах грамадскага жыцця.

***Прынята на канферэнцыі Віцебскай гарадской арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. 13.11.2001 г.***

# ПЛАН
## Правядзення Міжнароднага сімпозіюму
## "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі". Ліпень 2002 г.

**Паседжанне аргкамітэту 20 лістапада 2001 г.**

1. Абмеркаванне праблемы, яе характару, сутнасці і метадалогіі раскрыцця на сімпозіюме.

Даклады і дакладчыкі. Колькасны склад. Урадкаванне рэгламенту.

2. Аб ролі заснавальнікаў у падрыхтоўцы сімпозіюму і прадвырашэнні прынцыповых пытанняў вызначанай праблематыкі.

3. План работы аргкамітэту.

**Паседжанне аргкамітэту 11 снежня 2001 г.**

1. Вызначэнне асноўных дакладаў і дакладчыкаў, беларускіх і замежных вучоных-спецыялістаў для запрашэння на сімпозіюм.

2. Абмеркаванне магчымасцяў установ і арганізацый, заснавальнікаў сімпозіюму, у прадвырашэнні канкрэтных пытанняў парадку дня міжнароднага форуму.

3. Вывучэнннее публічных водгукаў, заўваг, прапаноў па падрыхтоўцы сімпозіюму.

**Паседжанні аргкамітэту праводзяцца адзін раз у месяц.**

**Акрамя пасяджэнняў аргкамітэту, праводзяцца прамежкавыя мерапрыемствы, у іх ліку:**

1. Круглы стол: "Беларусь у кантэксце глабалізацыі". Люты 2002 г.

Меркаваныя выканаўцы: Палата прадстаўнікоў, Інстытут сацыялогіі НАН Беларусі, Інстытут сацыяльна-палітычных даследаванняў, СПБ і інш.

2. Круглы стол: "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу. Іх роля і значэнне". Сакавік 2002 г.

Міністэрства інфармацыі, Міністэрства гандлю, Міністэрства эканомікі, Белдзяржтэлерадыё, ТБМ.

3. Круглы стол: "Мова і адукацыя, падручнікі і методыкі". Красавік 2002 г.

Выканаўцы: Міністэрства адукацыі, Белдзяржуніверсітэт, Белдзяржуніверсітэт імя М.Танка, Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа, ТБМ, СБП.

4. Нарада (пашыранае пасяджэнне аргкамітэту) на тэму: "Беларускі нацыянальны універсітэт. Грамадскі клопат – дзяржаўная задача". Красавік 2002 г.

5. Круглы стол: "Мова сродкаў масавай інфармацыі Беларусі". Травень 2002 г.

Выканаўцы: Міністэрства інфармацыі, Белдзяржтэлерадыё, факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, СБП.

6. Круглы стол: "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар". Май 2002 г.

Міністэрства інфармацыі, Палата прадстаўнікоў, ТБМ, "Фонд Льва Сапегі".

7. Конкурс беларускіх студэнтаў на лепшае сачыненне па тэме: "Родная мова, яе жыццяздольнасць і перспектывы развіцця". Снежань 2001 г. – красавік 2002 г.

Выданне зборніка лепшых сачыненняў.

Выканаўцы: Міністэрства адукацыі, Інстытут мовазнаўства, ТБМ, "Фонд Льва Сапегі".

8. Тэлефільм "Беларуская мова. Учора, сёння, заўтра". Травень-верасень 2002 г.

Выканаўцы: Белдзяржтэлерадыё, ТБМ, Інстытут мовазнаўства.

9. Выстава: "Беларуская мова, як частка нацыянальнай культуры". Чэрвень 2002 г.

Выканаўцы: Міністэрства культуры, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, Бібліятэка НАН Беларусі.

10. Сімпозіюм "Мова і культура народа ў кантэксце глабалізацыі. Разнастайнасць, шматаблічча, устойлівае развіццё". Ліпень 2002 г.

11. Круглы стол: "Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ва ўмовах глабалізацыі". Ліпень 2002 г. (У дні правядзення сімпозіюму).

12. Выданне зборніка матэрыялаў сімпозіюму на беларускай і англійскай мовах. Верасень-кастрычнік 2002 г.

# Выступ старшыні ТБМ А.Трусава на VII з'ездзе БНФ "Адраджэнне"

Паважаныя сябры!

Мы сабраліся ў гэтай зале ў вызначальны і юбілейны для нас час. Роўна дзесяць гадоў таму, дзякуючы ў першую чаргу намаганням БНФ, Беларусь зноў стала незалежнаай краіной, што мы згубілі палітычную ініцыятыву і перасталі першымі вылучаць ідэі, якія могуць скансалідаваць беларускае грамадства і павесці яго наперад. Каб рух БНФ быў моцны, ён элементарна змог бы вы-





інай. Трэба ўспомніць шматтысячныя дэманстрацыі і мітынгі, 1 млн. свядомых грамадзян Беларусі, якія прагаласавалі за незалежнасць на сакавіцкім "гарбачоўскім рэферэндуме" 1991 года, змагарную дзейнасць дэпутатаў ад БНФ у Вярхоўным і мясцовых (асабліва Менскім гарадскім) саветах у 1990-1991 гадах.

Дзякуючы БНФ, і толькі БНФ, сталі дзяржаўнымі нашыя спрадвечныя сімвалы, а беларуская мова зноў атрымала ганаровы статус адзінай дзяржаўнай мовы незалежнай еўрапейскай краіны. Пералічанага мною дастаткова, каб БНФ і яго лідары назаўжды засталіся ў нашай беларускай і еўрапейскай гісторыі.

Таму дазвольце мне павіншаваць Вас, шаноўныя спадарства, з 10-мі ўгодкамі нашай незалежнасці.

Зараз нажаль, БНФ перажывае не самыя лепшыя часы. Асабліва мяне клапоціць лёс руху БНФ "Адраджэнне", якім фактычна ніхто не займаецца, нават не выдаюцца новыя пасведчанні. У сваім дакладзе сп. Вячорка дыпламатычна не назваў агульную колькасць сяброў БНФ як руху, так і партыі.

На апошнім сойме прагучала лічба прыкладна 2200 асобаў – сяброў партыі. Відаць, невыпадкова і тое, што Вячорка прысвяціў дзейнасці руху толькі дзве хвіліны. Калі так будзе далей, то рух наш неўзабаве скапае, а партыя БНФ будзе і надалей выкарыстоўвацца як дапаможная сіла пры "раскрутцы" розных " незалежных" кандыдатаў накшталт Ганчарыка.

Галоўнае памылка БНФ, на маю думку, у тым, лучыць на першай стадыі прэзідэнцкіх выбараў свайго беспартыйнага кандыдата, свядомага беларуса з ліку незалежнай эліты, і тады адзіным кандыдатам ад апазіцыі быў бы іншы чалавек. Былі б іншымі і вынікі выбараў.

Каб паправіць сітуацыю, мы ўжо зараз павінны адказаць на пытанне, каго прапануе БНФ у кіраўнікі беларускай дзяржавы і з якой праграмай. Мы таксама можам выступіць з ініцыятывай правядзення рэферэндуму з прапановай выбараў кіраўнікоў мясцовых органаў улады ўсім насельніцтвам. Пад гэтае пытанне мы можам сабраць паўмільёна подпісаў і такім чынам узяць палітычную сітуацыю ў свае рукі.

З мэтай падтрымкі дзяржаўнай мовы тытульнай нацыі Беларусі я прапаную нашаму з'езду падтрымаць " Дэкларацыю аб беларускай мове", што была прынята VII з'ездам ТБМ у гэтым годзе. Тэкст Дэкларацыі ўжо раздадзены дэлегатам з'езду БНФ, а хто не мае, звяртайцеся да нас.

Паколькі мы толькі зараз атрымалі дакументы па змесце новай праграмы руху, прапаную прыняць рашэнне VII з'езда БНФ "Адраджэнне" аб правядзенні нечарговага з'езду ў кастрычніку 2002 года.

Я прапаную абраць першага намесніка старшыні БНФ з Менску і двух другіх намеснікаў з нашых рэгіёнаў. Было б добра, каб сярод намеснікаў і асабліва ў складзе новага Сойму БНФ належнае месца занялі нашыя прыгожыя, адданыя і разумныя жанчыны.

Дзякую усім за ўвагу.

*А. Трусаў.*

# Мастацтва габелену – у надзейных руках

Шмат новага пра габелен як арыгінальны від



дэкаратыўна- ужытковага мастацтва знойдзе для сябе глядач на юбілейнай выставе Валянціны Маркавец-Бартлавай, якая адкрылася напрыканцы лістапада ў Нацыянальным мастацкім музеі, самым прэстыжным асяродку культуры нашай краіны. І гэты факт, як адзначыў пры адкрыцці выставы рэктар Беларускай акадэміі мастацтваў Рычард Смольскі, сведчыць пра поспехі, якіх дасягнула Валянціна Пятроўна ў габелене.

Увагу гледача на выставе працягваюць тыя творы, дзе мастачка эксперыментуе, смела ўплятае ў свае дываны-карціны самыя нечаканыя матэрыялы: газетныя палоскі, адмысловыя дроцікі, прабірачкі з фарбамі ды іншае. Уражвае габелен "Поліэкалогія", а таксама трыпціх "Шляхі". У кожным з гэтых "Шляхоў" свой настрой, свой каларыт, свая музычная сімфонія, і этак сама, як у кожнага чалавека свая, толькі яму наканаваная, жыццёвая дарога.



Валянціна Маркавец-Бартлава прыйшла да свайго "залатога" юбілею ў поўным росквіце творчых сіл, з багатым духоўным набыткам. Пра гэта сведчаць і тыя габелены, што складаюць экспазіцыю выставы, і тыя, што ўпрыгожваюць інтэр'еры Беларускага дзяржаўнага універсітэта і Палаца Рэспублікі.



МАРКАВЕЦ-БАРТЛАВА ВАЛЯНЦІНА ПЯТРОЎНА

**Markavets-Bartlava Valyantsina Pyatrouna**

*Поліэкалогія*

Валянціна не толькі таленавітая габеленшчыца. Яна выдатны педагог, загадчыца кафедры БелАМ, дзе на працягу 10-ці гадоў выхоўвае моладзь, доўжыць традыцыі мастацкага ткацтва ў сваіх вучнях. "Покуль ёсць у Беларусі такія творцы і такія педагогі, як Валянціна, беларускае нацыянальнае мастацтва – ў надзейных руках", - зазначыў у сваім вітальным слове мастацтвазнаўца Барыс Крэпак. Шмат было кветак, шмат узнёслых слоў, якія акрыляюць творцу. Але самым дарагім падарункам для Валянціны ў гэты памятны вечар, як мне падалося, быў малюнак 30-х гадоў Міхася Сеўрука. Яго прэзентаваў сябра суполкі "Пагоня" Уладзімір Крукоўскі.

Завітайце ў Нацыянальны мастацк музей, і вы адкрыеце для сябе майстра габелену Валянціну Маркавец-Бартлаву.

*Ірына Ляксеева.*

# БЕЛАРУСЬ – ДЛЯ СВАЁЙ ДЫЯСПАРЫ, ДЫЯСПАРА – ДЛЯ БЕЛАРУСІ

На базе МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" пачынае дзейнічаць Інфармацыйны цэнтр "Беларусь аб'яднаная", асноўнай мэтай якога з'яўляецца наладжванне доўгатэрміновых партнёрскіх сувязяў паміж беларускай дыяспарай і Беларуссю ў галіне культуры, эканомікі, навукі, адукацыі, прыцягненне магутнага патэнцыялу беларускай дыяспары ў Беларусь, знаёмства з дасягненнямі беларускай эміграцыі. Стварэнне Цэнтра – адказ на грамадскую праблему ізаляванасці беларусаў замежжа ад Радзімы, з аднаго боку, і дэфіцыту інфармацыі аб жыцці нашых суайчыннікаў – з другога.

Як вядома, дыяспара кожнай дзяржавы адыгрывае важную ролю ў працэсе эканамічнага развіцця і дэмакратызацыі краіны. У Беларусі вялізарны патэнцыял дыяспары практычна не выкарыстоўваецца. А між іншым, па-за межамі нашай краіны пражывае больш за 3 млн. беларусаў. яны актыўна аб'ядноўваюцца ў грамадскія арганізацыі, ствараюць беларускія школы і тэатры, будуюць цэрквы і музеі, выпускаюць газеты і часопісы. Сваімі дасягненнямі беларусы ўзбагацілі культуру і навуку іншых краін.

Немагчыма будаваць сваю краіну, ігнаруючы дасягненні чвэртнай часткі беларускай нацыі, не засвойваючы яе гістарычна-культурную спадчыну. Супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай павінна ісці двумя шляхамі: з аднаго боку прыцягненне дыяспары да ўдзелу ў грамадскіх, эканамічных і культурных працэсах Беларусі, з другога – падтрымка нацыянальна-культурнага жыцця беларусаў за мяжой. Выспела практычная неабходнасць у стварэнні інфармацыйнага цэнтру з выкарыстаннем сучасных тэхналогій для аб'яднання беларускіх арганізацый Радзімы і замежжа ў адзіную інфармацыйную прастору.

Дзеля ажыццяўлення гэтай задачы Згуртаванне "Бацькаўшчына" плануе рэалізаваць шырокую праграму захадаў: стварэнне адзінай базы дадзеных беларускіх грамадскіх арганізацый у замежжы і Беларусі, стварэнне web-сайта, правядзенне круглага стала, выпуск галіновых дайджэстаў, інфармацыйнага бюлетэня і інш. Web-сайт будзе ўтрымліваць базу дадзеных, нарматыўную інфармацыю Рэспублікі Беларусь па пытаннях беларускай дыяспары, тэлеканферэнцыю, электронныя версіі дайджэстаў і бюлетэня, запрашэнні да супрацоўніцтва ў сферы культуры, навукі, эканомікі і адукацыі, інфармацыю аб гісторыка-культурнай спадчыне Беларусі за мяжой. Плануецца таксама раздзел "United Belarus" на англійскай мове, каб не толькі беларусы, але і ўсе, хто цікавіцца нашай краінай, маглі атрымліваць інфармацыю і далучацца да супрацоўніцтва.

Штомесяц, праз бюлетэнь "Беларусы замежжа", недзяржаўныя арганізацыі нашай краіны будуць мець магчымасць азнаёміцца з жыццём і дзейнасцю беларускай дыяспары, эміграцыйнай палітыкай краін яе пражывання, аб удзеле нашых суайчыннікаў у грамадскіх і палітычных працэсах іншых дзяржаў, аб прагрэсіўных дасягненнях гэтых краін.

Мы спадзяёмся, што дзейнасць Цэнтра паспрыяе стварэнню стабільнай і эфектыўнай сістэмы кантактаў і партнёрскіх сувязяў на прафесійным узроўні паміж спецыялістамі Беларусі і замежжа.

З навінамі аб дзейнасці Згуртавання "Бацькаўшчына" вы можаце азнаёміцца на сайце: zbsb.org

*Прэс-цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".*





# Маладыя гады, маладыя жаданні...”:

## Святкаванне 110-х угодкаў нараджэння Максіма Багдановіча

У нядзелю 9 снежня 2001 года ў кінатэатры “Змена” прайшла святочная імпрэза, зладжаная Сакратарыятам Таварыства беларускай мовы з нагоды 110-ых угодкаў нараджэння Максіма Багдановіча.

“Змена” ўжо неаднойчы гасцінна расчыняла свае дзверы перад знаўцамі і аматарамі беларускай культуры. Для сяброў ТБМ і супрацоўнікаў кінатэатра сталася добраю традыцыяй праводзіць сумесныя вечарыны, падчас якіх, натуральна, арганізоўваецца прагляд беларускамоўных фільмаў. Зычлівую атмасферу, выступамі цікавыхх людзей запомніліся адзначаныя тут летась гадавіны Ларысы Геніюш і Уладзіміра Караткевіча.

Гэтым разам у “Змене” збіраліся, каб адсвяткаваць 110-годдзе Максіма Багдановіча – аднаго з найвялікшых беларускіх паэтаў. Дата правядзення ўрачыстай імпрэзы дакладна супала з днём нараджэння славутага літаратара. Мусіць таму ўсе, хто сабраўся 9 снежня ў зале кінатэатра, ад самага пачатку мелі асаблівы, прыўзняты настрой. Вялікі нацыянальны Паэт, чыя творчасць зоркаю заззяла на небасхіле еўрапейскай літаратуры, на некалькі гадзінаў з’яднаў душы і сэрцы прысутных. А паколькі імпрэза ладзілася адмыслова для студэнцкай моладзі, дык былі маладыя, неўтаймаваныя, поўныя прагі жыцця сэрцы – пэўна, такія ж, як і сэрца самога Паэта.

Недзе далёка за сценамі кінатэатра засталіся будзённыя клопаты і шумлівае віраванне горада з ягонымі “чароўнымі прынадамі”: вечарыну распачыналі вершы і музыка. Бард Аляксандр Шундрык выканаў фрагменты спектаклю “Ў краіне светлай,,,”, цалкам збудаванага з твораў Максіма Багдановіча і песняў на словы паэта. Гэта быў выдатны зачын для ўсяго мерапрыемства, якое і надалей захоўвала дух шчырасці і ўзаемнай прыязнасці.

Добрым працягам вечарыны стаўся прагляд стужкі “Максім Багдановіч” (1991 г.). Гэты фільм,назвычай багаты на фактаграфічны матэрыял, даў магчымасць пабачыць мясціны, звязаныя з жыццём М. Багдановіча, і яшчэ раз узгадаць пра трагічны, але велічны лёс маладога творцы. А такая згадка была вельмі дарэчы, бо пасля прагляду фільма распачалася віктарына і кожны змог праверыць сваё веданне паэтавай біяграфіі ды творчай спадчыны. Як вядома, студэнты – народ заўзяты, а таму Алесю Стральцову – вядоўцу мерапрыемства, не даводзілася доўга чакаць ад залі правільных адказаў. Моладзь з ахвотаю і, без перабольшання, з лёгкасцю адказвала нават на самыя складаныя пытанні віктарыны. Цікавы факт: выдатнае веданне багдановічавай творчасці паказалі не толькі студэнты гуманітарных, але і тэхнічных спецыяльнасцяў. Напэўна, гэта найлепшы доказ таго, што сапраўдная паэзія адгукаецца ў кожным сэрцы, а праблемы, ўзнятыя Багдановічам, не абыякавыя і новаму пакаленню беларусаў.

Воплескамі і ўхвальным гоманам сустрэтыя былі ўдзельнікі, а дакладней, удзельніцы наступнага конкурсу. Дзяўчынам неабходна было праявіць свае здольнасці мастацкага чытання багдановічавых твораў. І канешне ж, для гэтага конкурсу былі абраныя вершы пра вечнае, узнёслае, маладое пачуццё – каханне. Лірычныя радкі Максіма Багдановіча заўсёды поўняцца нейкаю надзвычайнаю светласцю і вераю ў хараство жыцця. Яны не страчваюць сваёй ацаляльнай моцы нават тады, калі ў іх гучыць затоены боль: “Маладыя гады, маладыя жаданні! Ні жуды, ні нуды, толькі шчасце кахання...” Напэўна, гэтым і вабіць да сябе сёння (і заўсёды) паэзія Максіма Багдановіча. Прынамсі, менавіта пры такія яе вартасці казалі ўдзельніцы конкурсу, калі тлумачылі сваё ўспрыманне паэтавых твораў.

Умаца-ваць адчуванне таемнасці і неразгаданасці паэтычнага таленту Максіма Багдановіча дапамог прагляд фільма Віктара Аслюка “Забытыя нябёсы” (1996 г.). Пераказваць такую стужку, як, зрэшты, і пераказваць верш, справа няўдзячная. Неардынарнасць задумы, псіхалагічнасць і эмацыйнасць яе раскрыцця дазваляюць аднесці “Забытыя нябёсы” да жанру элітарнага кіно. Зразумела, што зала была па-сапраўднаму ўражаная гэтым фільмам.

Прамова старшыні ТБМ Алега Трусава распачалася з вызначэння таго, наколькі значнаю з’яўляецца асоба Максіма Багдановіча для беларускай культуры. Алег Трусаў заўважыў, што багдановічава паэзія і сёння захоўвае сваю актуальнасць. Калісьці паэт зрабіў складаны выбар на карысць беларускасці. Гэткае рашэнне і цяпер патрабуе ад кожнага вялікай унутранай сілы. Аднак калі яно будзе прынятае, дык дасць права адчуваць сябе вольным чалавекам.

Лагічным заканчэннем імпрэзы сталася ўрачыстае ўзнагароджанне пераможцаў віктарыны і ўдзельнікаў конкурсаў. Агульны настрой прысутных перадала выкананая разам багдановічава “Пагоня”.

Відавочным было намаганне арганізатараў злучыць традыцыйныя і нетрадыцыйныя прыёмы правядзення мерапрыемстваў. Прысутныя выступілі не ў ролі пасіўных гледачоў, а як раўнапраўныя ўдзельнікі і стваральнікі ўсяго, што адбывалася. Алесь Стральцоў, які займаўся падрыхтоўкаю гэтай імпрэзы, зазначыў, што яна мусіла быць не толькі пазнавальнаю, высокамастацкаю, але і абуджальнаю, натхняльнаю. І такі падыход сапраўды адкрывае новыя магчымасці. Актыўнасць залі, імкненне ўсіх канкурсантаў напоўніцу праявіць сябе, паказаць свае веды і здольнасці яскрава сведчыць, што сённяшняе пакаленне беларусаў абірае дзейснае жыццё. І калі ўдзельнікі імпрэзы змаглі глыбей адчуць хараство і непаўторнасць багдановічавай паэзіі, знайсці аднадумцаў або проста крыху лепш зразумець саміх сябе – значыцца, мэта была дасягнутая.

*Таццяна Вабішчэвіч.*

## Новае выданне ТБМ

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны з нагоды 110-х угодкаў з дня народзінаў Максіма Багдановіча выпусціла чарговы каляндарык з выявай знакамітага паэта на фоне Чырвонага касцёла ў Менску, аб якім ён пакінуў свае ўспаміны.**

**Каляндарык зроблены на 2002 год. Набыць каляндарык можна ў сядзібе ТБМ.**




# У “Вянок” Максіму

8 снежня Менская гарадская арганізацыя ТБМ разам з Цэнтральнай бібліятэкай імя Янкі Купалы ладзіла святочную імпрэзу да 110-годдзя Максіма Багдановіча. На вуліцы мацнеў мароз, а ў залу бібліятэкі, што месціцца на вуліцы В. Харужай, 16 спяшалася моладзь. Спяшалася з усіх канцоў горада, каб прыняць актыўны ўдзел у вечарыне.

Імпрэза складалася з дзвюх частак: творчасць выдатнага паэта ў вершах і песнях і першыя паэтычныя крокі сённяшніх гімназістаў, ліцаістаў, студэнтаў. Адкрыла і вяла вечарыну старшыня гарадскога ТБМ Алена Анісм. Яна сказала некалькі слоў пра асобу паэта, пра абранасць беларускага народа, бо мае ён у сваёй культурнай спадчыне сусветнага ўзроўню творцаў, такіх, як Максім Багдановіч, а яшчэ падзялілася сваімі асабістымі развагамі наконт таго, як можна ісці да Беларусі сёння, бачачы перад сабой постаць самага маладога класіка нашай літаратуры. А далей гучалі паэтавы словы ў кранальным выкананні навучэнцаў Дзяржаўнага беларускамоўнага (пакуль адзінага!) гуманітанага ліцэя імя Якуба Коласа Каці Сырамалот і Франака Вячоркі. Яніна Рудніцкая, Наталля Водзіч, Наталля Каргіна надзвычай пяшчотна праспявалі “За дахамі места”.

Гаспадыня залы – дырэктар Цэнтральнай бібліятэкі імя Янкі Купалы Алена Віктараўна – пазнаёміла з выставай кніг паэта, якія знаходзяцца ў фондзе бібліятэкі, падзялілася асабістымі ўражаннямі і пачуццямі, навеянымі творамі паэта.

Усе госці імпрэзы незалежна ад узросту маглі паўдзельнічаць у віктарыне, якую падрыхтавала і правяла к. ф. н., навуковы супрацоўнік Інстытута мовазнаўства НАН Беларусі Наталля Паляшчук. Дарэчы будзе сказаць, што падчас віктарыны панаваў дух суперніцтва, няўрымслівасці. Ніводнае пытанне не засталося без адказу. Імёны пераможцаў былі названыя напрыканцы імпрэзы. Гэта – Генадзь Кажамякін, сябар гарадской Рады ТБМ, Вячаслаў Статкевіч, саліст ансамбля “Свята”, Ганна Аксючыц, навучэнка ліцэя імя Якуба Коласа.

На вечарыне гучалі пераклады, зробленыя Максімам Багдановічам, а таксама вершы паэта, перакладзеныя на нямецкую і ангельскую мовы. Іх агучылі выкладчык Лінгвістычнага універсітэта В. В. Ермаловіч і студэнты Святлана Кухарэвіч і Антон Голуб. Даўні і шчыры сябра ТБМ, вядомы спявак, саліст ансамбля “Свята” Вячаслаў Статкевіч парадаваў прысутных выкананнем вядомых песень: “Зорка Венера”, “Панад белым пухам вішняў” і інш.

У другой частцы імпрэзы свае вершы прычыталі навучэнцы 12-й гімназіі, што ў Маскоўскім раёне сталіцы, Аляксандр Багданаў, Аксана Дамарацкая, Юля Гольдзюк, Алена Гладкая. Іх выступленне дапоўнілі вучні 4-й нацыянальнай беларускамоўнай гімназіі з Кунцаўшчыны Ілля Пуцікаў, Алена Гуткоўская і Юля Шаліма. Завяршылася гэтая імпрэза агульнымі спевамі “Пагоні” Багдановіча пад суправаджэнне гітары Аляксея Галіча, аднаго з арганізатараў вечарыны.

Мы не развітваемся з любімым паэтам, мы будзем прыходзіць да яго помніка, мы будзем слухаць яго вершы і песні і мы абавязкова навучымся любіць Беларусь так, як любіў яе Максім.

*Алена Анісім.*

# “Лёсам падараваная сустрэча”

***“Пакуль вера ў душы гаспадыняй жыве, -***
***Не патухне агонь у бязмежжы палёў,***
***І чарговую цемру святлом узарве,***
***Тая свечка, якую запальвае кроў”.***
***(“Шлях запозненага пакаяння”***
***Ігар Пракаповіч)***

Жыццё ідзе. Адбываюцца імпрэзы – цікавыя і не вельмі, ладзяцца вечарыны, сустрэчы з вядомымі, знакамітымі людзьмі, пісьменнікамі. А колькі сярод віленчукоў гістарычных постацяў і проста неардынарных. Пра аднаго з іх, Валеру Радзюкевіча, хочацца расказаць. Ён нарадзіўся ў Маладэчне, там закончыў школу, працаваў. У Вільні жыве з 1996 г. Заўсёды прыходзіць на імпрэзы ў ТБК, кожную суботу на набажэнства па-беларуску ў царкву Св. Мікалая, святар ацец Васіль яго зямляк. Часам бывае і ў касцёле Св. Барталамея, падабаюцца пропаведзі ксяндза Яна Шутовіча. Валера з жонкай Фаінай ездзіў у Курапаты, каб устанавіць крыжы на святым для беларусаў месцы. Група актывістаў ТБК перад Дзядамі здзейсніла такую паездку. Нельга зруйнаваць гістарычную памяць, магілы закатаваных людзей. Прыйдзе судны час, продкі адпомсцяць. Вельмі задаволены паездкай, там усклалі кветкі, запалілі свечкі, прачыталі малітву. Ехаць, або не ехаць, нават не сумняваліся. Ехаць. Так павінен дзейнічаць кожны сумленны грамадзянін – адзначае Валера. За кароткі час, які жыве Валера ў Вільні, ён сабраў усё, што тут выдадзена па-беларуску, актыўна ўдзельнічае ў грамадскім жыцці. А нядаўна рада ТБК была ў яго ў гасцях. Кажуць – сабака падобная на гаспадара. Ньюфаўленд – адно з захапленняў Валеры, прыгожая, разумная, пародзістая, 60 кг сабака, з радаслоўнай, шмат грамат і медалёў. Яна як член сям’і, двухкратны чэмпіён Літвы, 13 дыпломаў за ўдзел у выставах. Размова пачалася пра любімы горад Маладэчна, палац Агінскага, Валера не толькі цудоўны суразмоўца, але і краязнаўца свайго горада, краю. Ён дзесяцігоддзямі збірае календары знамянальных дат Маладэчна, выразкі з газет і часопісаў пра падзеі гістарычныя горада, пра людзей. Ён вучыўся ў Генадзя Каханоўскага, расказваў, як у школьныя гады да іх у клас “уварваўся” дырэктар школы, думаў, што вучні збеглі з урока, такая была цішыня. Гэта быў урок гісторыі, які вёў Т. Каханоўскі на беларускай мове, ён замяняў настаўніцу. З таго незабыўнага ўрока гісторыі Генадзя Каханоўскага, запала ў душу роднае слова, з’явілася жаданне больш глыбока пазнаць родны край. Пройдзе час, Валера Радзюкевіч будзе часта сустракацца з ужо вядомым вучоным, сустрэчы перарастуць у сяброўства. У прыватнай бібліятэцы Валеры пачэснае месца займаюць кнігі Р. Каханоўскага, а ўрокі гісторыі будзе помніць да канца жыцця. Валера сустракаўся з Міколам Ермаловічам, збірае кнігі і календарыкі выдадзеныя ТБМ. А які ў яго архіў пра свой любімы горад і маладэчанскі край, да яго можна звяртацца за інфармацыяй і парадамі гісторыкам. А яшчэ Валера ўнікальны калекцыянер. У яго калекцыі 1375 кружэлак, якія збірае з 1971 году, некалькі тысяч значкоў, столькі ж марак і манет. Калекцыі дапаўняе літаратура тэматычная. У ягоным архіве сабраны матэрыялы пра артыстаў, усё, што друкавалася ў савецкіх перыядычных выданнях. Такое шырокае кола захапленняў, здзіўляешся, як усе гэта змяшчаецца ў адным чалавеку. Ды не ў адным, разам з сваёю кабетай, Фаінай Несцераўнай, - прыхільніцай беларускасці. Тут у іх згода і гармонія. Усюды разам. Сціплыя, інтэлегентныя людзі, адкрытыя для зацікаўленых. Прыходзьце, карыстайцеся бібліятэкай. Мяне такія сустрэчы і натхняюць, і акрыляюць, ад іх цёпла і радасна.

*Леакадзія Мілаш,*
*г. Вільня.*



№ 50 (538) 19 СНЕЖНЯ 2001 г. НАША СЛОВА

# Ушанаванне памяці Ф. Багушэвіча адбылося!

Гэта здарылася пасля доўгіх і цяжкіх высілак ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю.

23.XI.2001 г. у в. Савічуны Рукойнскай сянюніі Віленскага раёна на будынку мясцовай бібліятэкі ва ўрачыстых абставінах адбылося ўстаноўка і адкрыццё Мэмарыяльнай Дошкі Ф. Багушэвічу.

На чорнай гранітнай Дошцы з барэльефам паэта з белага мармуру зроблены надпісы:

***"Наша мова для нас святая,***
***Бо яна нам ад Бога даная".***

І ніжэй пад барэльефам: "1840 - 1900"; на 3-х мовах (літ.; белар.; польскай): "паэт, удзельнік паўстання 1863 г".

Бібліятэка якраз знаходзіцца на вуліцы, якая з 1997 г. носіць імя Ф.Багушэвіча. На будынку бібліятэкі, адкуль пачынаецца вуліца надпіс на двух мовах (бел. і літ.) **вул. Ф. Багушэвіча.**

У самым будынку адрамантаваны пакой пад Літаратурны Музей Ф. Багушэвіча дзе паявіліся першыя стэнды і кніжкі. Наогул, будынак бібліятэкі і клуба раённымі ўладамі адрамантаваны і пафарбаваны. І гэта ўражвае, цешыць.

Але да гэтага ўрачыстага дня патрэбна было прайсці доўгі і цяжкі шлях змаганняў з бюракратызмам і валакітай, пачынаючы з 1997 года.

Ініцыятарам ушанавання памяці Ф.Багушэвіча была ТБМ і мне, як дэпутату раёна, прыйшлося ажжыццяўляць на практыцы. Хаця пад час гэтай працы ў мяне з'явілася шмат ворагаў, але вынік ёсць і гэта цешыць, што ТБМ зроблена праз 100 год такая праца па ўшанаванню памяці Ф. Багушэвіча.

Цяпер будзе ўстаноўлена экспазіцыя музея, стэнды і экспанаты, зробленыя і падрыхтаваныя нашай арганізацыяй. Тут плануецца кожны год у 3-юю суботу ці нядзелю сакавіка праводзіць Багушэвічавы чытанні і наогул свята Паэзіі. Таксама спадзяёмся, што ў хуткім часе (да вясны) бібліятэка будзе насіць імя Ф. Багушэвіча, а ў Свіранах, дзе радзіўся паэт (гэта кіламетар ад Савічунаў) на будынку прыватнага дома ўстановім памятную Дошку.

... Але вернемся да 23 лістапада. На адкрыццё сабраліся прадстаўнікі раённай улады і грамадскасці.

Мемарыяльную Дошку асвянціў ксёндз Рукойнскага касцёла, дзе 161 год таму назад хрысцілі Ф. Багушэвіча.

Вучні беларускай СШ імя Ф. Скарыны пад кіраўніцтвам настаўніка спеваў Валянціны Кавальчук далі канцэрт, а настаўніца беларускай мовы Алена Базюк пранікнёна і цікава расказала пра жыццёвы і творчы шлях паэта. Амаль ва ўсіх прысутных на вачах ад радасці і хвалявання былі слёзы.

Адбылося ўсё добра і нават вельмі добра. Толькі адна акалічнасць: на гэтае мерапрыемства раённыя ўлады запрашалі (можна сказаць) сваіх прыбліжаных. Пагэтаму мясцовых жыхароў было вельмі мала (гэтага не афішавалі). Не было і бел-чырвона-белага сцяга. Лунаў толькі літоўскі.

Хаця ТБМ і ўпамінаалі, як ініцыятары гэтага ўшанавання, але фактычна наша арганізацыя была адхілена ад непасрэднага ўдзелу ва ўрачыстасцях. Бо яна пад час усяго дзейнічала вельмі напорыста і многім гэтае не спадабалася. Некаторыя спрабавалі ўсе "заслугі" прыпісаць сабе, але гэта ім не ўдалося. Гэта маецца на ўвазе Лявон Мурашка, прэзідэнт беларускай арганізацыі ў Літве. Але гэта ўжо іншае пытанне і засяроджваць увагу няма патрэбы.

Справа зроблена і нават вялікая. Гэта наша перамога, аб якой не трэба і маўчаць.

Цяпер на чарзе ўшанаванне памяці Б. Тарашкевіча ў Лаварышках Віленскага раёна (у 2002 г. яму 110 год з дня народзін).

ТБМ працягвае сваю працу. Ей – 10 год. Утворана ТБМ у траўні 1991 г., а зарэгістравана ў Мінюсце ЛР – 25 сакавіка 1992 г.

Юбілей ТБМ будзе адзначаць добрымі справамі і на Беларусі. Тут плануем у траўні 2002 г. на базе гістарычнаэтнаграфічнага музея "Засцянковая хатка" правесці новае мерапрыемства: "Крыжовы шлях", альбо Малая Кальварыя. Ідзе падрыхтоўка. ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю за свае 10 год апраўдала сябе, працуючы на ніве нашага нацыянальнага Адраджэння.

Жыве Беларусь!

*Ю. Гіль,*
*старшыня ТБМ Віленскага Краю.*

**Прапаганда народных традыцый**

# Праблема захавання гістарычнай памяці

## (могілкі як помнікі нацыянальнай культуры)

***З 6 па 7 снежня ў Менску праходзіла рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя, "Народныя традыцыі: нацыянальная культура", якую арганізавала Міністэрства адукацыі Беларусі і Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка.***

***Да канферэнцыі арганізатары паспелі часткова выдаць і найбольш цікавыя матэрыялы яе ўдзельнікаў у выглядзе асобнага зборніка. На плянарным пасяджэнні 6 снежня з цікавымі дакладамі выступілі вядомыя беларускія навукоўцы, дактары навук, спадары Цітоў В.С., Сахута Я.М., Шыбека З.В.. Сярод іх быў і старшыня ТБМ, дацэнт Алег Трусаў.***

***Мы прапануем чытачам нашай газеты поўны тэкст яго выступлення.***

Наша грамадства зараз моцна хварэе з пункту погляду сацыялогіі і дэмаграфіі. Сёння Беларусь пакрысе вымірае. Але і памёршы, чалавек не можа часам знайсці вечнага спачыну, бо нейкі вандал можа пашкодзіць яго магілу, скрасці вянкі, разбурыць надмагільны помнік. У апошнія часы на Беларусі назіраюцца масавыя атакі вандалізму, за ноч разбураюцца дзесяткі надмагілляў у розных беларускіх гарадах, у тым ліку ў сталіцы.

Але ўладам да гэтага няма ніякай справы. Можна падумаць, што яны збіраюцца жыць вечна, і іх не турбуе, як нашчадкі абыдуцца з іх асабістымі магіламі.

У свой час хрысціяне на Беларусі заўжды думалі аб смерці і своечасова рыхтаваліся да яе. Заможныя людзі загадзя клапаціліся пра месца на могілках для сябе і ўсёй сям'і, некаторыя шляхцюкі нават рабілі труны па сваіх памерах і трымалі іх на гарышчах. Бязбожнікі-бальшавікі знішчылі павагу не толькі да жывых, але і да памерлых. Аднак вернемся да нашай гісторыі...

Тысячагадовая гісторыя Беларусі мае паслядоўную эвалюцыю пахавальных традыцый, на фармаванне якіх уплывалі канфесійныя, нацыянальныя і палітычныя фактары.

Канчатковае сваё аблічча беларускія могілкі набылі ў канцы XVIII-XIX стст. Прычым вясковыя могілкі значна адрозніваюцца ад гарадскіх, дзе ў асноўным былі пахаваныя заможныя людзі.

Велізарныя хвалі паланізацыі і сустрэчнай русіфікацыі пракочваліся ў гэтыя часы адна за другой па беларускай тэрыторыі. Пасля ліквідацыі уніяцтва ў 1839 годзе праваслаўныя могілкі сталі называцца "рускімі", а каталіцкія – "польскімі". Беларуская мова знікла з надмагільных надпісаў канчаткова. У той час яўрэйскія могілкі маюць надпісы на ідзішы і іўрыце, а татарскія па-беларуску ці руску, але арабскімі літарамі. У вялікіх гарадах з'яўляюцца асобныя лютэранскія могілкі, дзе пахаваныя выхадцы з Германіі. У невялікіх паветовых гарадах існавалі адны агульныя могілкі, якія мелі асобныя канфесійныя сектары.

Падчас першай сусветнай вайны нямецка-рускі фронт праходзіў праз тэрыторыю Беларусі з 1915 па 1918 год. Ваенныя падзеі пакінулі пасля сябе велізарныя нямецкія і рускія салдацкія могілкі, якія зараз альбо знішчаны, альбо прыйшлі ў заняпад.

Пакінулі свой след на Беларусі і савецка-польская вайна 1919 – 1920 г. Гэта магілы польскіх жаўнераў і савецкіх чырвонаармейцаў, а таксама шматлікага цывільнага насельніцтва, што загінула ад рук мясцовых бандытаў і вайсковых фармаванняў абедзьвюх краін.

Другая сусветная вайна закранула тэрыторыю Заходняй Беларусі ў верасні 1939 года. Да нямецкіх і польскіх пахаванняў пасля 17 верасня 1939 года дадаліся і магілы чырвонаармейцаў.

З 1941 па 1944 год Беларусь цалкам апынулася ў агні Вялікай Айчыннай вайны, калі на нашай тэрыторыі загінула і памерла ад ран некалькі мільёнаў чалавек розных нацыянальнасцяў і канфесій.

Асабліва пацярпелі могілкі ад бальшавіцкай улады. У часы грамадзянскай вайны бальшавікі знішчылі шмат мірнага насельніцтва ў выніку класавых і канфесійных чыстак. Бальшавікі змагаліся не толькі з жывымі, але і з нябожчыкамі. Былі апаганены мошчы святых, разрабаваны сотні багатых пахаванняў дваран, гандляроў, фабрыкантаў, былых уладальнікаў маёнткаў і замкаў.

Пахавальны абрад рэзка змяніўся. Адпяванне нябожчыкаў у храмах было практычна забаронена. Замест крыжа на надмагільных помніках з'явіліся пяціканцовая чырвоная зорка.

У 30 – 40-х гадах XX ст. на тэрыторыі БССР узнікаюць таемныя масавыя пахаванні ахвяраў сталінскага рэжыму. Найбольш вядомымі з іх з'яўляюцца Курапаты пад Менскам, дзе пахаваныя ў вялікіх брацкіх магілах каля 200 тысяч чалавек. Месца гэтых пахаванняў органы НКУС трымалі ў вялікім сакрэце.

Таксама былі пад вялікай забаронай магілы жаўнераў Арміі Краёвай, што змагалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі як з фашыстамі, так і з бальшавікамі. Пасля апошняй вайны фактычна ўсе нямецкія могілкі на Беларусі былі знішчаны.

У 60 – 70-х гадах вандалы пачалі знішчаць і мясцовыя могілкі ў тых выпадках, калі на іх ужо не праводзіліся пахаванні, іх тэрыторыя апынулася пасярод жылых кварталаў вялікіх беларускіх гарадоў. У гэты час у Менску былі знішчаны канчаткова яўрэйскія, татарскія, лютэранскія, праваслаўныя Старажоўскія могілкі і старыя дваранскія могілкі каля кінатэатра "Спартак". Дзеці гулялі з чарапамі і косткамі нябожчыкаў, а разбітымі надмагільнымі помнікамі брукавалі дарогі і вуліцы.

У часы хрушчоўскага змагання з рэлігіяй на Палессі і Заходняй Беларусі знішчылі практычна ўсе прыдарожныя крыжы і капліцы, устаноўленыя мясцовымі сялянамі. Былі разбураны альбо пашкоджаны надмагіллі, усталяваныя на месцы пахаванняў святароў і шляхты, побач з касцёламі альбо цэрквамі. На дзейных могілках вандалы-бязбожнікі масава ламалі крыжы як сімвалы хрысціянства.

Асобная гаворка можа ісці пра стан аховы мемарыяльных помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Фармальна, у асноўным на паперы, ахове дзяржавы падлягаюць, як помнікі археалогіі – курганы і курганныя групы X – XIII стст., так і шматлікія пахаванні савецкіх салдат, афіцэраў і партызан. Таксама пастаўлены на ахову некалькі дзесяткаў магіл некаторых беларускіх пісьменнікаў, мастакоў і дзеячоў палітыкі і культуры. І гэта ўсё. На самой справе ў газетах увесь час ідзе інфармацыя аб шматлікіх масавых актах вандалізму на сучасных могілках, за якія ніхто не нясе пакарання.

Даўно настаў час прыняць асобны закон, прысвечаны пахавальнай справе на Беларусі, і ў ім адлюстраваць прынцыпы і парадак аховы і выкарыстання ўсіх нашых мемарыяльных помнікаў і комплексаў. Дарэчы, адпаведны закон "Аб пахаванні і пахавальнай справе" прыняты 8 снежня 1995 года Дзяржаўнай Думай Расійскай Федэрацыі. Канчаткова ўступіў у сілу гэты закон з 1 сакавіка 1996 года.

На Беларусі ніякіх заканадаўчых актаў у гэтай галіне пакуль няма. Існуюць толькі розныя інструкцыі і іншыя падзаконныя акты.

Новы беларускі закон павінен рэгуляваць адносіны, звязаныя з пахаваннем нябожчыкаў, а таксама прадугледжваць ахову і вывучэнне гістарычных могілак на Беларусі.

Закон павінен устанавіць:

1) гарантыі пахавання нябожчыка з улікам пажаданняў, выказаных асобай пры жыцці, а таксама пажаданняў яго сваякоў;

2) гарантыі атрымання матэрыяльнай і іншай дапамогі для пахавання нябожчыка;

3) санітарныя і экалагічныя патрабаванні да выбару, утрымання і аховы месцаў пахавання;

4) выдзяленне пэўных крытэрыяў для аб'яўлення асобных гістарычных могілак помнікамі культуры і гісторыі Беларусі як унікальных архітэктурна-археалагічных комплексаў;

5) вызначэнне пэўных крытэрыяў для аб'яўлення індывідуальных і брацкіх пахаванняў помнікамі гісторыі і культуры Беларусі;

6) стварэнне на Беларусі нацыянальнага ПАНТЭОНА, дзе будуць праводзіцца пахаванні і перазахаванні выдатных людзей нашай Бацькаўшчыны.

Для паспяховай рэканструкцыі гістарычных могілак неабходная ахова ландшафта старажытных месцаў пахавання з улікам усяго комплексу розных аспектаў сацыяльна-культурнай значнасці могілак – мемарыяльнага, культурна-выхаваўчага і экалагічнага.

Вядома, што нацыянальны Пантэон павінен знаходзіцца ў сталіцы. Зараз у Менску налічваецца 17 могілак. З іх статус мемарыяльнага комплексу маюць Вайсковыя могілкі па вуліцы Казлова. Шмат пахаванняў вядомых людзей Беларусі і на Маскоўскіх могілках і яны могуць зараз прэтэндаваць на ролю агульнанацыянальных. Але дзеля гэтага патрэбна спецыяльная пастанова Савета Міністраў Беларусі.

Варта спадзявацца, што ў XXI ст.беларуская дзяржава здолее надаць нашым мамарыяльным комплексам такую ж увагу, як і ў іншых цывілізаваных еўрапейскіх краінах.

*Алег Трусаў,*
*кандыдат гістарычных навук, дацэнт.*





Станіслаў Суднік

# Сейлавічы: крэскі на белай пляме

## Спроба тапанімічна-этнаграфічнага эсэ

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Пятровічы гербу "Ляліва"**

Вядома: Лаўрэнці і Ганна з Свядзінскіх П., валодалі маёнткам Вярховічы ў Берасцейскім ваяв., які пакінулі сынам Яну і Якубу (1647). – Тадэвуш П., ротмістр наваградскі, прадаў Мацвею П., скарбніку ашмянскаму, фальварак Лагодкі ў Наваградскім пав. (1788).

Рг. – Людвік, пакінуў сыноў Дамініка, яго сын Адам, Пятра, яго сыны Адам, Юры і Сымон, і Юрыя, яго сыны Лукаш, Тамаш, Юзаф і Ян, якія ў якасці доказу на шляхецтва прад'явілі сведчанне ўраднікаў і абываццеляў Наваградскага пв. за 1800. Разам з імі выводзіліся іх пляменнікі Людвік, а таксама Сільвестр і Мацвей, сыны Яна П., не пазначаныя ў генеалогіі.

Прызнаны ў дваранстве 26.05.1800.

У Сейлавічах былі дзве ці тры сям'і Пятровічаў.

**Быліновічы, (Буліновічы, Беліновічы) гербу ўласнага.**

Паходзілі з Магілёўшчыны. Прадставілі пасведчанні аб шляхецтве і інш. дакументы на імя Сымона і яго брата Станіслава Беліновічаў ад Марціна Ваньковіча, суддзі гродскага менскага, ад Вінцэнта Казіміра Ваньковіча, Станіслава Ваньковіча, старасты сянажэцкага, ад Ігната Ламацкага, ротмістра наваградскага, ад Юрыя Машынскага, суддзі земскага Мазырскага пав., ад шляхты Чавускага пав. Магілёўскай губ. Якуба Эйдзята Зубовіча, шамбляна каралеўскага двара, і калежскага сакратара Юрыя Ляшнеўскага, сакратара (?), і інш., ад Фларыяна Падбярэзкага, ротмістра аршанскага.



**Герб "Беляновіч" ("Быліновіч", "Буліновіч")**

Рг. – Ян, меў сыноў: Міна, Яна, Аляксандра і Мікалая беспатомнага. Аляксандр пакінуў Тодара і Гаспара, апошні меў сыноў Рыгора і Каятана. У Тодара, сына Аляксандра, былі сыны Марцін, Аляксандр і Павел. Міна меў пяць сыноў: Марціна, Аляксандра, Эліяша, Базыля і Яна беспатомнага.

Марцін, сын Міны, пакінуў восем сыноў: Ануфрыя, Яна, Юзафа, Францішка, Пятра, Антона, Міхала і Тадэвуша. Ян, сын Марціна Мінавіча, меў сыноў: Эліяша, Ігната, Даніеля і Фердынанда. У Эліяша, сына Міны, былі сыны: Нікадэм, Ян, Міхал, Сымон, Андрэй, які меў сыноў: Сільвестра і Яна. У Нікадэма, сына таго ж Эліяша, быў сын Сымон. У Базыля, сына Міны, былі сыны Ян, Канстанцін і Лявон. Апошні меў сына Міхала.

Ян, сын Яна, пакінуў шэсць сыноў: Антона, Себасцяна, Яна, Марціна, Стэфана і Пятра. Апошні пакінуў чатырох сыноў – Аляксандра, Тодара, Рыгора, Якуба. Ян, сын таго ж Яна Янавіча, валодаў маёнткам Хацятаў у Чуваскім павеце Магілёўскага намесніцтва і меў сыноў: Станіслава, Людвіка і Сымона. Апошні арандаваў засц. Восаў у Барысаўскім стар., аб чым засведчыў кантракт, складзены (29.02.1785 г.) Марцінам Ваньковічам, ураднікам барысаўскім. Выводзіліся таксама сыны Сымона Янавіча Фларыян, Францішак, Пётр, Стэфан, Марцін, Ануфры.

Гэты род гербу ўласнага зафіксаваны ў генеалагічных табліцах Менскага ДДС за 1803 г.

Прызнаны ў дваранстве 18.08.1795 г.

На тым я мушу завяршаць аповед пра сейлавіцкую шляхту. Як аказалася, па гэтай тэме застаюцца вельмі вялікія прабелы і да складання поўнага гярбоўніка сейлавіцкай шляхты вельмі далёка і ці дойдуць рукі не ведаю. Я, як змог, зрабіў пачатак. Мо хто калі даробіць астатняе.

У давяршэнне мушу сказаць, што ў пераліку шляхочых радоў быў прапушчаны род Драздовічаў, а, магчыма і яшчэ нехта.

Мне праблематычна звязаць сейлавіцкіх Станкевічаў, Матусевічаў, Марцінкевічаў са знакамітымі беларускімі дзеячамі, якія насілі такія ж прозвішчы. Хутчэй за ўсё, што і сейлавіцкія Марцінкевічы былі гербу "Лебедзь" і, магчыма былі нейкім чынам звязаныя з Дуніным-Марцінкевічам. Пэўна, недзе ў глыбіні стагоддзяў у гэтых родаў быў агульны пачатак.

Было б вельмі добра, каб знайшліся прадстаўнікі сейлавіцкіх радоў, здольныя распісаць свае радаводы больш падрабязна, дадаць да майго аповеду тое, што ведаюць яны. Таму ў аповедзе пра сейлавіцкую шляхту я не стаўлю ( . ), а пакідаю ( ...)

### Сейлавічы майго дзяцінства

### Хаты

Сейлавіцкія хаты будаваліся строга паводле традыцый беларускага народнага дайлідства. Асноўным будаўнічым матэрыялам было дрэва. Муравая хата Ёзіка Кіраша доўгія гады была адзінай на ўсю вёску. Дрэва вызначала і памеры і форму хатаў. Сумесь эпох і культураў таксама накладвалі свой адбітак.

Напачатку хаты ў Сейлавічах будаваліся двух тыпаў: ***з сеньмі*** і ***з прыбудоўкай***. Рэдка сустракаліся хаты ***на два канцы***. Крыху пазней з'явіліся хаты ***з трохсценкамі***. Вось, як мне падаецца, і ўся фантазія. Можна дадаць, што ўжо недзе ў 60-х пайшла мода на веранды, і яны з'явіліся па ўсёй вёсцы.

Хаты ў Сейлавічах стаяць да вуліцы або доўгай сцяной, або кароткай. Як правіла, хаты, што будаваліся з сеньмі, павернуты да вуліцы кароткай сцяной, а хаты, павернутыя доўгай сцяной, практычна ўсе маюць прыбудоўкі і веранды, хаця дастаткова і выключэнняў таго ці іншага кшталту.

Стрэхі ў Сейлавіцкіх хатах, амаль усюды строга двухсхільныя. Некалькі было з усечанымі шчытамі. Хлявы, таксама, двухсхільныя, гумны былі чатырохсхільныя. Пабудовы калгаснай эпохі ( кароўнікі, канюшні маглі мець стрэхі розных стыляў).

Хаты з сеньмі – традыцыйныя для Беларусі. Паралепіпед зруба дзеліцца на дзве часткі канёвай сцяной. Наогул тэрмін ***кань*** быў характэрны для кожнай хаты і раней быў абавязковы. Паводле традыцый народнага дойлідства адна сцяна хаты абавязкова павінна быць ***глухой***, без вокан. Гэтая сцяна называецца ***кань***. Ніколі беларуская хата не праглядвалася з акна ў акно наскрозь. Зрэдку ў кані рабілі дзверы. Пазней пры ўсякіх перабудовах выразалі і вокны. Функцыянальна кань дадавала хаце ўстойлівасці, жосткасці зрубу.

Кань, як правіла, тыльная ад вуліцы сцяна. У хаце з сеньмі канню маглі называць сцяну, якая аддзяляла пакоі ад сяней. Сені займалі прыблізна адну трэць пабудовы і самі дзяліліся на ўласна ***сені*** і ***камору***. Сені і камора не абаграваліся. З сяней вяла лесвіца (стаялі ***лескі***) на ***гару (гарышча)***. Ніколі ў Сейлавічах на лескі не кажуць ***драбіны***. Драбіны – у возе. Драбіны і сам воз. А лескі лескамі.

***Гара*** бывае толькі ў хаце. У хляве гарышча называецца ***вышкі***.

У хаце з прыбудоўкай увесь паралепіпед хаты жылы. Функцыю сяней выконвае прыбудоўка – трохсценак без шчыта, падведзены пад адну страху, як правіла са зломам схілу. Прыбудоўка дзеліцца таксама на сені і камору. З прыбудоўкі лазіць на гару цяжка і нязручна, таму ў такіх хатах выразаюць дзверцы ў ***шчыце*** і лазяць на гару па лесках.

У апошні час, пасля з'яўлення газу сені ператвораны ў летнія (а то і зімовыя) кухні.

Жылая хата дзялілася строга не менш як на дзве часткі. Далей перагародкаў маглі нагарадзіць колькі хочаш, па патрэбе часткі хаты называліся: ***"кухня"*** і ***"тая хата"***. Калі канструктыўна ўзнікала вітальня, то яна называлася ***"перад"***, а часцей ніяк не называлася.

На кухні абавязкова стаяла печ. Ніякай ***"рускай печчу"*** яна ніколі не называлася. Печ была ўнікальная, адна і ніякіх дадатковых словаў да сваёй назвы не патрабавала.

Печы ў Сейлавічах былі традыцыйныя для Беларусі і мала адрозніваліся прынцыпова, але ў залежнасці ад майстра, матэрыялу, арматуры кожная печ у кожнай хаце – строга індывідуальная. Як няма двух аднолькавых чалавек, так няма і дзвюх аднолькавых печаў.

Печ мае вельмі шмат элементаў: ***прыпек, чалеснікі, чарон (чарэнь), падпечак, розныя пячуркі, віночнік*** або ***качарэжнік.*** Печ мае ***засланку***, якая ў старыя часы магла запраста стаць школьнай дошкай. Печ мае ***юшку***: адну, або некалькі. Засланка звычайна металічная, рэдка драўляная, абабітая бляхай. Ручка чыста металічная, або з драўлянымі накладкамі. Печы на працягу стагоддзяў прайшлі сур'ёзную эвалюцыю. Напачатку XX стагоддзя ў Сейлавічах амаль не было чыста глінабітных пячэй, але пячэй, дзе ніжняя частка глінабітная. а верхняя цагляная было дастаткова. Такія печы часта мелі ***апечкі*** – драўляную апалубку, каб гліна не выкрышвалася ды і печ з цягам часу не разпаўзалася. Печы звычайна бяліліся мелам або вапнай. Сейлаўцы адрознівалі ***мел*** і ***крэйду***. Крэйдай пісалі ў школе. А мел сейлавіцкія гаспадыні любілі купляць у "галачках" (у выглядзе круглых шароў дыяметрам каля 7-8 см.). Ім і бялілі. Пры пераездзе з хутароў у канцы 50-х – пачатку 60-х сейлаўцы перасталі рабіць глінабітныя печы і перайшлі цалкам на цагляныя, а яшчэ крыху пазней з сярэдзіны 60-х на кафляныя. Паліваная кафля была дарагая, таму ўжывалася рэдка. Традыцыйная сейлавіцкая печ са звычайнай кафлі маляваная алюміневай пудрай.

З аднаго боку каля печы, у глухім кутку ладзіўся ***палок*** на вышыні 1,0 – 1,2 м. ад падлогі. Рабіўся палок з дошак. На палку спалі, гулялі зімой дзеці. Палок можа сказаць быў ужо атавізмам колішніх ***палаткаў***, але ў многіх сейлавіцкіх хатах палкі існавалі яшчэ ў 60-я гады. Пасля былі зліквідаваны, як клас. Здарылася гэта пасля з'яўлення электрычнасці, калі "лямпачка Ільіча" асвятліла ўсе цёмныя вуглы хаты і палкі перасталі ўпісвацца ў агульны інтэр'ер.

Печы былі простай канструкцыі: з адной варыстай камерай. Былі з убудаваным ***стаяком*** і з убудаванай ***плітой***. Акрамя печы практычна ўва ўсіх хатах ёсць ці былі ***стаякі***, спачатку цагляныя пасля кафляныя. ***Стаяком*** у Сейлавічах называецца тое, што ў іншых месцах Беларусі называюць ***грубкай*** або галандскай печкай. Сейлавіцкі стаяк мае прыблізныя памеры 80х80х220 см. Стаяк мае 3-7 ***люфтоў***. Колькасць люфтоў – гэта колькасць паваротаў, якія робіць дым уздоўж сценак стаяка ад паліўнай камеры да выхаду ў комін. Чым больш люфтоў, тым лепш грэе стаяк, але чым больш люфтоў, тым большае патрэбна майстэрства, каб забяспечыць цягу. У сейлавіцкіх хатах практычна заўсёды адзін ***комін***. Таму дым і з печы, і з стаяка, і з пліты сыходзіцца ў гэты комін. Лепшыя сейлавіцкія майстры не злучалі стаяк з комінам, а праз ***ляжак*** выводзілі яго ў печ. Таму калі вечарам палілі стаяк у той хаце, то грэлася і частка печы, і абагравалася кухня. Ад пліты таксама грэлася частка печы. Таму трэба адзначыць, што увесь ацяпляльны комплекс сейлавіцкай хаты быў даволі складаны, але разам з тым і кампактны, калі можна назваць кампактнай печ.

*(Працяг у наст. нумары.)*




**Печ работы Стася Грынявіцкага, або Казіка Секяржыцкага (Самуельчыка)**

*Беларускі extreme*

# Мова—мілагучная, музыка—цяжкая

Ну вось і адбылося тое, пра што так даўно марылі свядомыя аматары "цяжкой музыкі"—выдадзена першая айчынная зборка-панарама беларускамоўнай экстрэмальнай рок-музыкі. Магчыма, для кагосці гэтая падзея падасца не вельмі значнай і не варай ўвагі. Але гэты факт, усё ж, адметны тым, што з'яўляецца яшчэ адным доказам таго, што нашая мова жыве не толькі сваімі фальклёрнымі каранямі і традыцыяй, але і накіраваная ў будучыню, у культуралагічныя прасторы XXI стагоддзя.

Так, кампакт-дыск "Hard Life—Heavy Music", неглядзячы на сваю англамоўную назву (камерцыйная хітрасць выдаўцоў!), знаёміць маладых беларусаў з творчасцю шматлікіх беларускіх metal-гуртоў, творчасць якіх грунтуецца на беларускамоўных тэкстах, на тэмах, каранямі сваімі звязанымі з Беларуссю, яе гісторыяй і праблемамі. Пра гэта можна ўпэўніцца, калі слухач упершыню разгорне ўкладыш кампакт-дыска, на якім сабраныя ўсе матэрыялы, тэксты, якія патрэбныя для разумення гэтай складанай, бударажачай, месцамі цмянай музычнай з'явы.

Death, thrash, speed, black, doom, grindcore, pahan... З усімі гэтымі стылявымі разгалінаваннямі экстрыма ў выкананні беларускіх "металістаў" мы можам пазнаёміцца на гэтым рэлізе, які дарэчы, стаў магчымым дзякуючы ініцыятыве БМАgroup. У сваім уступным артыкуле вядомы беларускі музычны журналіст Вітаўт Мартыненка адзначае, што першы зборнік беларускай экстрэмальнай музыкі прадстаўляе гурты з усёй краіны: з Бярэсця, з Гомлі, з Віцебска, Горадні, Полацка, Воршы, Менска і нават ... з Беласточчыны і галандскага Эйндховена.

Праграму дыска распачынаюць гурты, што арыентуюцца на pahan-metal-рок у розных яго іпастасях: "Капішча", "Зьніч", "Apraxia", "Gateward". Іх стыхія—апрацоўкі беларускага фальклёру ці стварэнне твораў паводле яго. І калі на прэзентацыі лідэры стылю—"Зьніч", "Apraxia" выступілі традыцыйна моцна і пераканаўча, дык выступ берасцейцаў з "Gateward" стаўся пэўнай сенсацыяй. З часу іх апошніх выступаў у менскіх клубах гурт набыў непаўторны сцэнічны вобраз, пачаў гучаць як адзінае цэлае—бачна немалая рэпетыцыйная праца. На дыску ж прадстаўлена іх апрацоўка народнай песні "Купалінка". Шчыра кажучы, новая студыйная версія гэтага народнага эвергрына асаблівай арыгінальнасцю не ўразіла. Пра гэта я адзначыў у адной са сваіх рэцэнзій на новы дыск. А вось на канцэрце "Купалінка" прагучала ў выкананні так фантастычна прыгожа, што зала, якую запоўнілі "металманы", не змагла ўстаяць—разам спявала гэтую цудоўную купальскую песню! Толькі дзеля аднаго гэтага можна было б туды трапіць...

Інструментальную музыку ў "цяжкой" стылістыцы складальнікі дыска вырашылі прадставіць творчасцю гітарнага дуэта Спіцын-Чармэн і гурта "Deadmarsh", які ужо стаў лаўрэатам не аднаго рок-фэсту ў Беларусі і за яе межамі. Іх кампазіцыі "Хуткасць" ды "Колы і агонь" хоць і прысвечаны ўвогуле адной тэме, вырашаюць яе рознымі сродкамі: Спіцын-Чармэн—з дапамогай віртуознага валодання інструментамі і кампазіцыйнай завершанасці, "Deadmarsh"—шчыльнага ансамблевага выканання, больш дакладанага стылявога вызначэння музыкі. Разам гэтыя творы вельмі цікава слухаць, бо яны з розных бакоў ілюструюць стан выканаўчай культуры беларускіх metal-музыкаў.

Прысмак арыгінальнасці дыску надаюць парадыйныя трэкі, якіх на іншых аналагічных рэлізах сустрэнеш не так часта. Тым не меньш, іх на дыску прадстаўляюць малады гурт "Slavir" і праект Улада Бубена "Rogobans". Іх вясёлыя "чорныя" тэксты выклікаюць усмешку, бо пародыя—трапная: "*Мы ўсталі рана, злавілі двух баранаў. Доўга сядзелі, бо гатаваць ня ўмелі. З'елі сырымі, крывавымі, мяснымі...*" і гэтак далей.

Музычным эпіцэнтрам extreme-навінкі можна назваць блок кампазіцый лідараў беларускага thrash-metal—гуртоў "Aquamorta", "Gods Tower", "Vicious Crusade", "Vir", а таксама сяброў лэйбла БМАgroup з Галандыі-гурта "Third Stone". Трэкі гэтых выканаўцаў выгадна адрозніваюцца ўскладнёнасцю музычных формаў, разгорнутасцю кампазіцый, віртуознасцю выканання, "ударнымі" тэкстамі: "Крочым поплеч на Усход па шляхах Альгерда!". Беларускі англамоўны экстрэмальны рок прадстаўлены кампазіцыяй "Тодарава песня" ў вынананні менскага гурта "Vicious Crusade". Гэта той самы легендарны твор, які запісаны з вядомым беларускім даследчыкам дуды і выкаўцам на гэтым інструменце Тодарам Кашкурэвічам. Менавіта Кашкурэвіч разам з іншым даследчыкам А.




Ласём падчас экспедыцыі у адной з беларускіх вёсак знайшлі рэшткі беларускай "экстрэмальнай" дуды пачатку мінулага стагоддзя—неверагодных для гэтага інструмента памераў, з металічнай акоўкай, з унушальнымі металічнымі шыпамі. Такой heavy-metal-дудой пад час бойкі на вяселлі можна было не слаба абараняцца. Дык вось адкуль ў Беларусі гэтыя экстрэмальна-металічныя традыцыі !

Ну а пра традыцыі thrash-metal ў Галандыі нам музычнымі сродкамі распавялі музыкі з "Трэцяга каменя"—планеты Зямля, трэцяй поводле ліку ад Сонца. Менавіта так перакладаецца назва гурта "Third Stone" з англійскай мовы. Вось бачыце, у такой цывілізаванай краіне ёсць свае моўныя праблемы—самі ж галандцы спяваюць на чужынскай мове! Можа беларускі прыклад натхніць і іх успомніць тое, чыёй яны культуры гадаванцы, чыёй мовы-маці і яны сыны? Ну а з музычнавыканаўчага боку паміж беларускімі і галандскімі музыкамі вялікай розніцы не назіралася. Ад гэтага цеплыня прыёму яшчэ больш натхняла нашах галандскіх гасцей, якія на прэзентацыі гэтага беларускамоўнага дыска тварылі сапраўдныя цуды, ад душы "заводзілі" публіку, дзякавалі за запрашэнне ў нашую самабытную, еўрапейскую(з іх пункту гледжання) краіную. Ну а нам, слухачам запомніліся шмат цікавых кампазіцый гэтага гурта і ў прыватнасці, тая, што запісана на дыску: "Па-за маім зрокам", якая пачынаецца беларускамоўнай інтрадыцыяй: "*Галандыя разам з беларускім цяжкім рокам, хоць Беларусь пакуль і... "Па-за маім зрокам."*"

Польска-беларускую "цяжкую" плынь прадстаўляе знаёмы па нашумелай кампіляцыі "Вольныя танцы: альтэрнатыва - ву" беластоцкі гурт "The Dzvery". Але ў адрозненне ад мінулых сваіх запісаў гурт прадстаўляе "цягучую", вельмі сумную баладу з цёплым жаночым вакалам "Мая нядоля". Гэтаму дзявочаму спліну мужчынскае адценне надае кампазіцыя гарадзенскага "Твару" "Лесвіца слабасці"...

Завяршаецца ж новы кампакт дыск з беларускамоўнымі extreme-metal кампазіцыямі гістарычным трэкам легендарнай полацкай thrash-каманды "Дзіда", што называецца "Калі ласка". І як зазначае Вітаўт Мартыненка, "Дзіда" грала metal яшчэ ў канцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ў савецкай Беларусі быў забаронены і рок, і беларуская мова. Ад сябе дадам, што з тых часоў у Беларусі амаль нічога не змянілася, акрамя таго, што на змену "Дзідзе" прыйшло столькі цікавых калектываў, у тым ліку і extreme-напрамку, якія спяваюць па-беларуску, і што на гэта дазвол прасіць, як гэта рабілася раней, ужо няма патрэбы. Пра гэта і сведчыць новы дыск БМАgroup "Hard Life—Heavy Music".

***Анатоль Мяльгуй.***

Розгалас

# Дазвольце, вас пане, за тылак укусіць...

Нярэдка я выступаю на старонках штотыднёвіка "Наша слова", як аўтар, але вось і надарылася нагода выступіць у ролі ўсхваляванага чытача, дыскутанта.

Яшчэ ў верасні з цікавасцю прачытаў рэпартаж У. Касароўца "Вясковыя канцэрты Алена" ("НС" №37, 19.IX.2001). Нават з маіх асабістых публікацыяў можна здагадацца, што і я неабыякава стаўлюся да гэтага артыста, сачу за ягонай творчай біяграфіяй яшчэ ад першых юначых поспехаў Алена на рубяжы 80-90-х гадоў, радуюся ягоным перамогам на фестывальных і канцэртных сцэнах Беларусі, Польшчы, ЗША. Крыху шкада, зразумела, што тонкая лірыка гэтага незвычайнага бард-попс-выканаўца сёння прываблівае слухача яўна менш за модныя жорсткія рытмы "NRM", "Zet" ці нават задорную дэнс-энергетыку "Палаца" або "Без білета", але даследчыкі, пільныя крытыкі, зацікаўленыя энтузіясты маглі б заўважыць у Алена тое, чаго яўна не стае ў іншых нашых поп-зорак – мастацтва шчырага самавыяўлянсу:

***Рыфмы – мова нябёс,***
***А пісаць – гэта лёс.***

Або яшчэ:

***Наваполацк, кватэра, нічога другога..***
***Кухня, стол, я пішу пра сябе і свой крыж.***

Што ні песня аленаўская – то новы філасофскі зрэз у стыхіі бязлітаснага самааналізу. І самае дзіўнае, як лёгка ён кладзе ўсё гэта ў простыя формы звычайнай папсы. А самае краснае, што ён аналізуе сябе, а праз яго мы адкрываем ўсё лепшае ў сабе. Бо чалавек ён не банальны.

На жаль, дзьмутыя інтэлектуалы нашай прэсы яўна не звяртаюць увагі на папсу, затое калі здараюцца прарывы шчыраванняў (як і ў рэпартажы У. Касароўца), гэта прыносіць шмат добрых адкрыццяў.

Аднак, раптам у "Нашым слове" №41 (за 17.X.2001) знаходжу рэпліку нейкага А. Пракоф'ева, які ў грунтоўнай публікацыі пра Алена знайшоў толькі "выразы з словамі "халуі", "хеўра", "абалваньванне", якія наўрад ці прыйдуцца да спадобы тым, ад каго залежыць дазвол на канцэрты".

Шаноўны, мо вы б і Купалу не раілі пісаць сваіх славутых "Тутэшых", якія наўрад ці прыйдуцца даспадобы гым, ад каго залежыць дазвол? Дый Алегу Бембелю не варта мо было б шчыраваць у ягоным "Родным слове і маральна-эстэтычным прагрэсе" (бо кніжка ягоная да гэтага часу не выдавалася на радзіме, а толькі ў Лондане)?

Вы адчуваеце сябе сябрам Партыі памяркоўнага прагрэсу ў рамках дазволенага, якую яшчэ ў мінулым стагоддзі высмеяў геніяльны К. Чапэк? Вы ж прапануеце "грубасці ўладных чыноўнікаў (если кто-то кое-где у нас порой) супрацьпаставіць цывілізаваную апазіцыйнасць".

Дык хіба ж не цывілізавана зімоўска-азаронкаўскую хеўру хлусьлівых падхалімаў гэтак і назваць? А мо вы бачыце ў іхняй хлусні хоць зярнятка таленту? Дык іх жа пасля выбараў сам гаспадар адштурхнуў прэч. Дый калі ў вас радзіму скралі, няма чаго развешваць ружовыя смаркачы на смех публіцы.

І ўвогуле, што спрачацца пра лёс тых, хто ў гісторыі беларускай культуры зойме адпаведнае месца мясцовага Герастрата, які запомніўся адно ў выслоўі "забыць Герастрата".

Ну і на Алена, праўда, вы, спадар Пракоф'еў, звярнулі ўвагу: "Неяк кепна псеўданім не стасуецца з беларускасцю". Дык скажыце нам, што стасуецца з ёю: мо вашае прозвішча Пракоф'еў ці вашая пазіцыя "не пакрыўдзіць хеўру крыўдзіцеля"? Дый падумайце, няўжо беларускі юнак, які калісьці пакахаў дзяўчыну Алену і ўзяў сабе псеўданім Ален, быў бы больш беларускім, каб назваўся Леніным? Вы, пэўна, занадта падпалі пад уплыў правіцельніцтва "СТВ", якое ў народзе называюць "Срам ТВ". Так і на лэйбе іхняй напісана, толькі ТВ -- два разы. Бог сам хеўру меціць, дык не бойцеся ісці за Богам.

***Вітаўт Мартыненка.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

***Заснавальнік:*** ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі:*** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
***Адрас рэдакцыі:*** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:*** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/

***Рэдакцыйная калегія:***
Вадзім Болбас, Міхась Булавацкі, Людміла Дзіцэвіч, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Людміла Піскун, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 18. 12. 2001 г.
Наклад 3800 асобнікаў. Замова № 2804.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 418 руб., 3 мес.- 1254 руб.
***Кошт у розніцу:*** 100 руб.